

# Навіны БНФ

нумар 16 (94)
31 жніўня 2006

## У нумары:





# 8 верасьня – Бітва пад Воршай

На зыходзе 1512 года Маскоўская дзяржава распачала новую вайну за «исконно русские земли» – Беларусь і Украіну, што ўваходзілі ў склад Вялікага Княства Літоўскага й пад уладаю Маскоўшчыны ніколі не былі.Вялікі князь Жыгімонт Стары здолеў сабраць пад свае сцягі ў Менску толькі трохі болей за 30 тысяч ваяроў. Тут былі 16 тысячаў коньнікаў паспалітага рушаньня Вялікага Княства пад камандаваньнем славутага гетмана Канстанціна Астрожскага, 14 тысяч польскіх конных жаўнераў, тры тысячы найманай пяхоты і 2500 шляхцічаў-добраахвотнікаў з Польшчы. Асноўныя сілы на чале з Астрожскім рушылі насустрач варожай ардзе. І 8 верасьня, на Крапівенскім полі адбылася вырашальная бітва, дзе вялікалітоўскія сілы разграмілі мацнейшае і лепш падрыхтаванае войска маскоўскае.

Аршанская бітва стала адной з найбуйнейшых у Эўропе XVI стагодзьдзя. Бліскучая перамога нашай зброі аддала ініцыятыву вайны ў рукі Вялікага Княства. Усе захопленыя маскоўцамі гарады, апроч Смаленска, былі вызваленыя. Пачаў развальвацца накіраваны супроць Польшчы й Вялікага Княства Літоўскага таемны альянс Маскоўшчыны ды эўрапейскіх дзяржаваў. Крымскія татары, уражаныя перамогаю пад Воршай, на два гады спынілі набегі на Княства й павярнулі сваіх коней у бок Маскоўшчыны.

# Як мы ставімся да мясцовых выбараў



Перадусім я б зьмяніў напісаньне: не *мясцовыя выбары*, а *г.зв. "мясцовыя выбары"*. Усе мы выдатна ведаем, што дакуль не зьмянілася атмасфэра ў краіне, ніякіх выбараў як рэальнага волевыяўленьня народу быць ня можа. Атмасфэру ў грамадзтве мяняць трэба. Калі ж рэжым абвяшчае чарговы выбарчы фарс, мы павінны яго выкарыстаць тэхнічна.

На мясцовую кампанію ў якасьці кандыдатаў пойдуць тыя, хто гэта разумее. Не паўторыцца сытуацыя чатырохгадовае даўнасьці, калі сёй-той падчас кампаніі прыхоўваў сваю партыйную прыналежнасьць і гаварыў выключна пра асфальт-лямпачкі, спадзеючыся "праскочыць". Пэўны рэзон такіх спадзеваў тады быў: часам асобныя групоўкі вэртыкалі грызьліся паміж сабой, і ў шчыліну мог праскочыць нехта трэці. Акрамя таго, тады ўлада яшчэ не давяла да пэрфэкцыі мэханізм крадзяжу галасоў.

**Задача фронтаўцаў, якія пойдуць у якасьці кандыдатаў, – падтрымаць у дзеяздольным стане існыя дэмакратычныя (хацелася б, каб кааліцыйныя) структуры ў рэгіёнах, а дзе іх няма альбо слабыя – арганізаваць наноў.**

Зусім ня тое цяпер. *Па-першае,* пасьля падзеяў сакавіка-красавіка актыўныя й сьвядомыя людзі ставяць перад сабой задачу разьвіваць здабыты тады посьпех, трымаць ініцыятыву, а не зашывацца назад у норы й падладжвацца пад іхны выбарчы каляндар. *Па-другое,* грамадзтва, якое даволі скептычна ставіцца да выбараў, ведае ці адчувае, што ў нашай краіне няма ніякага мясцовага саамакіраваньня. Г.зн., прэзыдэнцкія выбары яшчэ ўспрымаюцца як шанец нешта памяняць, як штосьці важнае, а да мясцовых – стаўленьне адпаведнае.

Задача фронтаўцаў, якія пойдуць у якасьці кандыдатаў, – падтрымаць у дзеяздольным стане існыя дэмакратычныя (хацелася б, каб кааліцыйныя) структуры ў рэгіёнах, а дзе іх няма альбо слабыя – арганізаваць наноў. Для чаго?

– Каб падчас самой кампаніі даставіць людзям мільёны (у маштабе краіны) асобнікаў улётак, брашураў і газэтаў. У друкаванай прадукцыі ды вусна мы тлумачым, што папраўдзе здарылася ў краіне ўвесну й што адбываецца цяпер. Абавязкова трэба скарыстаць магчымасьць больш-менш легальна раскідваць гэтыя ўлёткі. Але працягваць гэта з такой самай інтэнсіўнасьцю і пасьля "мясцовых выбараў", якія – нагадваю – хутка пралятуць.

– Каб знайсьці новых людзей, перадусім – мясцовых лідэраў-інсайдэраў (анг. insider 'той, хто ўсярэдзіне'). Тых актыўных, каго слухаюць свае: у суседзкай грамадзе (яны звычайна нефармальна ўзначальваюць мясцовыя змаганьні, скажам, з ЖЭСам), на прадпрымальніцкім рынку-стадыёне, на заводзе альбо ў цэху, у настаўніцкім калектыве, у маладзёвым асяродку. Бязь іх нам будзе цяжка пашырыць арганізаваную працу на вялікія сацыяльна-ўзроставыя групы.

– Каб менавіта нацыянальна-дэмакратычныя сілы, г.зн. найперш Фронт, вялі рэй у мясцовых кааліцыях.

Ясна, што трэба будзе і сабраць подпісы (ня толькі за сябе любімых, але пад сацыяльна-эканамічнымі патрабаваньнямі), і зрабіць іншую неабходную працу. Але толькі выканаўшы падчас мясцовай кампаніі вышэйпералічанае, мы будзем гатовыя перайсьці да наступнага этапу стратэгіі: агульнакраёвых акцыяў сацыяльнага, палітычнага й нацыянальнага пратэсту, скіраваных на ўратаваньне краіны ад разбуральнага крызысу.

* * *

Неабходная заўвага. Калі "мясцовыя выбары" ўсё ж будуць спалучаныя з рэфэрэндумам пра "саюзную дзяржаву", тады ўсё нашае змабілізаванае палітычнае рушэньне павернецца на змаганьне супраць такога незаконнага рэфэрэндуму.

**Вінцук ВЯЧОРКА,**
**старшыня Партыі БНФ**

# 25 жніўня

## Фінальны крок у шляху да Незалежнасьці

25 жніўня 1991 году была аднаўленая незалежнасьць Беларусі. Гэтаму папярэднічалі драматычныя падзеі, зьвязаныя са спробай перавароту ў Маскве і падтрымкаю путчыстаў ("ГКЧП") большай часткай кіраўніцтва Вярхоўнага Савета Беларусі.

Яшчэ раніцай 19 жніўня 1991 году дэпутаты Апазыцыі БНФ і "дэмклюбу" у Вярхоўным Савеце 12 скліканьня выступілі з асуджэньнем перавароту; у той жа дзень перад Домам ураду быў праведзены мітынг. Сотні людзей зьбіраліся на плошчы таксама 20 і 21 жніўня. Людзі, якія прыходзілі на плошчу, рызыкавалі свабодай: пазьней стала вядома пра адмысловыя закратаваныя вагоны, падагнаныя на чыгуначны вакзал. Шмат якія працоўныя калектывы прымалі рэзалюцыі з асуджэньнем ГКЧП. Дэпутаты запатрабавалі ад старшыні ВС Мікалая Дземянцея тэрмінова склікаць сэсію парляманту, аднак ён выступіў на баку путчыстаў. 25 жніўня абмяркоўвалася прапанова Апазыцыі БНФ аб наданьні Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце статусу канстытуцыйнай сілы. Для прыняцьця рашэньня патрэбныя былі дзьве трэціны галасоў дэпутатаў. Станіслаў Шушкевіч, які вёў паседжаньне, выказаў сумнеў, што рашэньне будзе прынята. Адразу пасьля выступу лідэра БНФ слова ўзялі сакратары абкамаў і райкамаў партыі (цяпер ужо былыя), якія заклікалі прыслухацца да аргумэнтаў Пазьняка. З падтрымкай выступіў і старшыня Савету міністраў Вячаслаў Кебіч.

У Авальнай залі прысутнічала 265 дэпутатаў, для станоўчага рашэньня патрабавалася 232 галасы. За наданьне Дэклярацыі аб сувэрэнітэце прагаласавалі 252 дэпутаты. У 20 гадзін 08 хвілін Беларусь вярнула незалежнасьць.

Гэтае рашэньне Вярхоўнага Савета віталі тысячы людзей на плошчы перад Домам Ураду, якая пазьней была названая ў гонар Незалежнасьці.



**Валянцін ГОЛУБЕЎ,** дэпутат **Вярхоўнага Савету:**

– У гэты час амаль увесь склад Вярхоўнага Савету быў у адпачынку ў Сочы, але толькі Фракцыя БНФ, у склад якой уваходзіла 28 чалавек, працягвала працу, ня маючы, у адрозьненьні ад іншых, ніякіх ільготаў на яго. 19 жніўня адбыўся маскоўскі путч, які даў штуршок гэтай падзеі. Ужо з 19 да 25 жніўня пачалася распрацоўка праекту пазачарговага сходу. Дзякуючы Станіславу Шушкевічу, быў скліканы ўвесь палітычны склад ВС БССР. Безумоўна, наданьню Дэклярацыі канстытуцыйнай сілы паспрыяў мітынг на плошчы й імкненьне народу атрымаць незалежнасьць. У той час народ цалкам падтрымаў ідэю незалежнасьці. Гэты дзень я заўжды ўзгадваю як "трыюмфальнае шэсьце незалежнае Беларусі".

**Сяргей МІХНОЎ быў 25 жніўня 1991 году на плошчы:**

– Народ на плошчы,ў першую чаргу, быў натхнены тым, што быў разьбіты савецкі лад. У гэты час, пасьля маскоўскага путчу, у Расеі забараняўся камуністычны рух, што таксама ўплывала на настрой мітынгоўцаў. Народ натхняла атрыманьне незалежнасьці й адраджэньня, таксама штуршком зьяўлялася й тое, што супраціву не было нават з боку міліцыі, якая ў той час перайшла на наш бок і цалкам падтрымлівала думку незалежнасьці.

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ,** дэпутат **Вярхоўнага Савету:**

– Безумоўна, без існаваньня Фракцыі БНФ нічога б не атрымалася, і ад яе шмат чаго залежала ў вырашаньні гэтага пытаньня, нягледзячы на вельмі малую колькасьць дэпутатаў у складзе Вярхоўнага Савету.

**Вацлаў АРЭШКА быў 25 жніўня 1991 году на плошчы:**

– Напэўна, тады пытаньне незалежнасьці й дэмакратыі болей хвалявала народ, які быў на плошчы, людзі проста хацелі атрымаць ад гэтага сапраўдную незалежнасьць.. Тады было прасьцей сабраць людзей на плошчы, бо сярод іх не было пачуцьця страху. Сёньня, на вялікі жаль, шмат людзей проста стамілася, бо народ сапраўды быў расчараваны ў незалежнасьці й дэмакратыі, якая зараз існуе толькі на паперцы.

**падрыхтаваў Юрась Станкевіч**



Аляксей Янукевіч

# Усё ў свой час

Гэтая восень распачынае новы палітычны сэзон. Некалькі месяцаў пайшлі на ацэнку прэзыдэнцкай кампаніі і акцыяў супраціву 19-25 сакавіка, вызначэньне пост-выбарчага стану дэмакратычных сілаў і пошук новай стратэгіі дзеяньняў. Адказы, лепшыя ці горшыя, на большасьць пытаньняў знойдзеныя. Прыняты плян дзеяньняў на бліжэйшы год. Маем узгодненую стратэгію. Незразумела толькі, хто ў якой ступені і ў якой ролі будзе ўдзельнічаць у рэалізацыі гэтых плянаў. Іншымі словамі, адкрытым застаецца пытаньне: як, у якой форме і ў якім складзе будуць існаваць надалей Аб'яднаныя дэмакратычныя сілы – галоўны палітычны праект беларускай апазыцыі апошніх гадоў.

На маю думку, і гэтае пытаньне будзе адкрытым як мінімум да вясны наступнага году. Нават калі мы вызначымся раней са складам, пэўны час рэальнай супольнай працы, на вялікі жаль, ня будзе. Гэта трэба зразумець, усьведаміць і прыняць, як дадзенае. Бо супольная праца ёсьць не тады, калі мы разам абмяркоўваем ды ўзгадняем пляны (хоць з гэтага яна, вядома, павінна пачынацца), і нават не тады, калі мы заключаем пагадненьні й дамовы, але толькі тады, калі мы разам працуем з грамадзтвам, разам ідзем да людзей. Адной калёнай, а не дзесяцьцю. Але, відавочна, у бліжэйшыя некалькі месяцаў, улучна з кампаніяй мясцовых выбараў, усе суб'екты кааліцыі будуць працаваць зь людзьмі самі па сабе.

У дадзенай сытуацыі я лічу мэтазгодным і карысным для Партыі БНФ часова памяняць наш падыход да кааліцыі. Так, кааліцыя патрэбная. Безумоўна, без рэальнай кааліцыі ня будзе перамогі, ня будзе свабоды. Гэта не падлягае сумневу ці перагляду. І, вядома, у кааліцыі трэба трымаць ініцыятыву, што нашая Партыя і рабіла апошні год, прычым рабіла пасьпяхова. Дзякуючы нашаму лідэрству ў кааліцыі нацыянальныя каштоўнасьці вярнуліся на першыя месцы ў парадку дня як у Беларусі сярод дэмакратычнага грамадзтва, так і сярод міжнароднай супольнасьці, што надзвычай важна. Але ўсё ў свой час. Цяпер цэнтрабежныя сілы й жаданьні адасобіцца ў працы й нешта рабіць самастойна (не пакідаючы пры гэтым кааліцыі) дастаткова моцныя ў шэрагу партыяў-удзельнікаў Аб'яднаных дэмакратычных сілаў. Гэта натуральны працэс. Гэта часовая дэзынтэграцыя перад новым этапам супольнай дзейнасьці на больш якасным узроўні. І таму любыя звышвысілкі на кааліцыйнай ніве ў бліжэйшыя месяцы дадуць мінімальны вынік. Таму сёньня, я перакананы, нам трэба больш думаць пра партыю, чым пра кааліцыю. Калі жадаеце, нам трэба часова перастаць быць маторам кааліцыі, але пабыць пасажырамі – усё роўна далёка не пасунемся, але паліва й высілкаў выдаткуем значна меней. Трэба ствараць свой партыйны плян працы, у тым ліку плян падрыхтоўкі да мясцовых выбараў. Тым болей, што й на мінулыя мясцовыя выбары партыі праводзілі асобныя, самастойныя кампаніі. У тых рэгіёнах, дзе атрымліваецца нармальная супраца – выдатна, трэба працаваць разам. Але падчас гэтай кампаніі мясцовых выбараў кааліцыйнасьць для нас ня ёсьць дасягальнай мэтай па ўсёй Беларусі. Гэта кепска, але ня страшна. Нават карысна. Падчас мінулай прэзыдэнцкай кампаніі мы ішлі да людзей перадусім як прадстаўнікі Аб'яднаных дэмакратычных сілаў ці адзінага кандыдата Аляксандра Мілінкевіча. І гэта было правільна. Цяпер час нам ісьці да людзей як сябрам Партыі БНФ, прапагандаваць сваю партыю й праводзіць адпаведную ідэалягічную працу, умацоўваць структуры, займацца партыйным будаўніцтвам. І гэта ня будзе супярэчыць, у пэрспэктыве, нашаму стратэгічнаму накірунку на ўмацаваньне кааліцыі. Бо чым мацнейшай будзе нашая партыя, тым і нашая вага ў кааліцыі будзе большая, і немагчымасьць любых кааліцыяў без Партыі БНФ будзе больш відавочная. Таму менавіта цяпер самы час узгадаць, што інтарэсы кааліцыі й Партыі БНФ не заўсёды супадаюць, і што нашыя абавязкі перад партнэрамі па кааліцыі – гэта усяго толькі нашыя абавязкі, але ня нашыя жаданьні, і мы павінныя думаць ня толькі аб тым, як выканаць гэтыя абавязкі, але й аб тым, каб рабіць усё магчымае, што ім не супярэчыць (бо мы людзі адказныя), каб умацоўваць і прапагандаваць сваю партыю – Партыю БНФ.

акцыі



# 500-годзьдзе парамогі пад Клецкам

У Клецку адбылося сьвяткаваньне 500-годзьдзя вялікай перамогі беларускіх войскаў ВКЛ над крымскімі татарамі. Арганізатарамі сьвяткаваньня выступілі сябры Беларускага саюзу мастакоў «Адплата» пад кіраўніцтвам Міколы Купавы, Партыя БНФ і Музэй гісторыі Клеччыны. Нягледзячы на неспрыяльнае надвор'е, у Клецак прыехалі сябры Партыі БНФ і моладзі БНФ. Падчас урачыстага пачатку сьвяткаваньня каля помніку на месцы змаганьня выступілі з урачыстымі прамовамі намесьнік старшыні Партыі БНФ Юрась Хадыка й мастак Мікола Купава, а моладзь БНФ ўзьняла бел-чырвона-белыя сьцягі. Пасьля ўсе удзельнікі мерапрыемства накіраваліся ў Музэй гісторыі Клеччыны, дзе адбылася прэзэнтацыя выставы, прысьвечаная падзеям 500-гадовай даўніны. Сярод мастакоў, творы якіх прымалі ўдзел у выставе, – Валянціна Сьвентахоўская, Мікола Аўчыньнікаў, Рыгор Мяжуеў, Мікола Купава, Людміла Красьнеўская-Кашкурэвіч, Міхась Басалыга, Міхась Будавей, Арлен Кашкурэвіч, Віктар Сташчонак і Уладзімер Кандрусевіч. Пасьля прэзэнтацыі карцінаў была арганізаваная сустрэча моладзі БНФ зь мясцовай моладзьдзю, якая расказала пра праблемы, што хвалююць Клецак. Сярод такіх праблемаў – занядбаньне гістарычнай спадчыны Клецка, недастатковае фінансаваньне Музэю з боку дзяржавы.

# Гадавіна Грунвальду

### Моладзь БНФ павіншавала менчукоў зь геройчнай перамогай 15 ліпеня 1410 г.

15 ліпеня сябры моладзі БНФ правялі ў Цэнтральным дзіцячым парку акцыю, прысьвечаную 596-ай гадавіне знакамітай бітвы пад Грунвальдам, у якой харугвы велікакняскага войска сумесна са сваімі польскімі хаўрусьнікамі перамаглі нямецкіх рыцараў-крыжаносцаў.

З тае нагоды былі распаўсюджаныя інфармацыйныя ўлёткі й значкі "За свабоду!", дзецям раздаваліся балёнікі белага й чырвонага колераў, што, нягледзячы на пахмурнае надвор'е, стварыла прыемны настрой і патрыятычную атмасфэру ў парку. Цікавасьць у большасьці наведнікаў парку выклікала сама падзея, пыталіся й пра бітву, і аб яе гістарычным значэньні, на што актывісты знаходзілі трапныя адказы. Сьвята Грунвальдзкай перамогі было з радасьцю адзначана менчукамі. А заклікі ў паштоўках насамрэч, здавалася, абуджалі ў людзей нацыяналістычныя настроі й жаданьне надалей бараніць сваю Айчыну й Незалежнасць, як тое рабілі 596 гадоў таму нашыя прашчуры.

**Андрусь Ігнатовіч**



# Моладзь БНФ езьдзіць па Беларусі



**Ліда**

У Лідзе актыў моладзі БНФ сустрэўся з маладымі людзьмі Лідчыны. Пасьля ўрачыстай імшы ва ўрочышчы Крыжы падчас імправізаванага сходу адбылося нефармальнае знаёмства моладзі Менску й Лідчыны. Ад кіраўніцтва Партыі БНФ з прамовай выступіў намесьнік старшыні Партыі БНФ Аляксей Янукевіч. Ён расказаў пра ідэалы й каштоўнасьці Партыі БНФ, а таксама падзяліўся ўспамінамі пра сваё ўступленьне ў Партыю 10 гадоў таму назад.

Хлопцы й дзяўчаты зь Лідчыны расказалі, чым бы яны хацелі займацца ў рамках палітычнай дзейнасьці, падзяліліся кантактамі й ідэямі. Напрыканцы сустрэчы было абрана два дэлегаты на зьезд моладзі БНФ.

Паездка ў Ліду стала першай у шэрагу паездак, заплянаваных у рамках падрыхтоўкі да першага зьезду моладзі БНФ.

**Белаазёрск**

3 жніўня, пачаўся арганізаваны Партыяй БНФ «Рух добрай волі». Каля пяці дзясяткаў хлопцаў і дзяўчат з розных партыяў і арганізацыяў (БНФ, Малады фронт, Зубр, Дзедзіч і інш.) пачалі вандроўку па маляўнічых мясьцінах Белаазёршчыны. Каля Белага возера яны паставілі намёты, стварыўшы своеасабліваe намётавае мястэчка. Падчас адпачынку моладзь удзельнічала ў зладжаных арганізатарамі інтэграцыйных гульнях і дыскусіях. Кажа адзін з арганізатараў «Руху добрай волі», сябра Сойму Партыі БНФ Зьміцер Шыманскі: *«Рух добрай волі ў гэтым годзе адбываецца другі раз. Першую такую вандроўку мы ладзілі пяць гадоў таму назад, прымяркоўвалі яе да прэзыдэнцкіх выбараў».* Трэба адзначыць, што моладзь сабралася ня толькі адпачыць. *«Мэта сёлетняй вандроўкі – інфармаваньне навакольнага насельніцтва пра сытуацыю ў краіне (мы распаўсюдзілі 1000 асобнікаў газэты «Газэта для вас») і добраўпарадкаваньне мясьцін Белаазёршчыны»,* – кажа арганізатар мерапрыемтсва, кіраўнік абласной арганізацыі Партыі БНФ Юрась Губарэвіч.

4 жніўня, актыў моладзі БНФ наведаў летнік з мэтаю задзіночаньня палітычна актыўных маладых людзей вакол Партыі БНФ. Падчас сустрэчы адбылася гутарка й дыскусія. Былі зададзеныя шматлікія пытаньні пра дзейнасьць моладзі БНФ, пра розьніцу паміж моладзьдзю БНФ і Маладым фронтам, пра магчымыя сумесныя праекты зь «Дзедзічам» і іншымі маладзёвымі суполкамі. Па запрашэньні арганізатараў некалькі сябраў моладзі БНФ засталіся ў намётавым мястэчку для таго, каб прыняць паўнавартасны ўдзел у «Руху добрай волі».





# Пісьменьніцкая бібліятэка пераехала!

## Моладзь БНФ выратавала бібліятэку Саюзу беларускіх пісьменьнікаў

Рашэньнем гаспадарчага суду аб вызваленьні бібліятэкі й усіх астатніх памяшканьняў будынку Саюзу пісьменьнікаў было пастаноўлена спагнаньне вялікай сумы за ўтрыманьне бібліятэкі на ранейшым месцы, у Доме літаратара па адрасе вуліца Фрунзэ, 5. Але гэтых грошай Саюз беларускіх пісьменьнікаў ня мае, таму давялося перавозіць бібліятэку Саюзу беларускіх пісьменьнікаў са сталіцы ў Ліду. Станіслаў Суднік, галоўны рэдактар газэты ТБМ «Наша слова», сябра Сойму Партыі БНФ і кіраўнік лідзкай арганізацыі Партыі БНФ, адзін з арганізатараў пераезду бібліятэкі, кажа: *"Нейкаму менскаму чыноўніку спатрэбілася памяшканьне. Саюз беларускіх пісьменьнікаў ня мае грошай плаціць за арэнду. Таму перавозім кнігі, агульны кошт якіх, дарэчы, перавышае 500 тысячаў даляраў, у Ліду. У Лідзе бібліятэку прымае лідзкі гарвыканкам, які й арганізаваў перавоз: выдаткаваў сродкі й прадаставіў фургон для кніг".*

Намесьнік старшыні Саюзу беларускіх пісьменьнікаў Анатоль Івашчанка заклапочаны, што зараз карыстацца кнігамі будзе складаней, аднак адзначае: *"Не ў такі далёкі сьвет павязем іх. Калі хто захоча чытаць гэтыя кнігі, няхай парупіцца й прыедзе ў Ліду. Тут зараз каля 40 тысяч кніг, а было 60 тысяч. Частку забрала Прэзыдэнцкая бібліятэка, частку – унівэрсытэты культуры й пэдагагічны. Асноўная частка будзе надалей захоўвацца ў Лідзе, у памяшканьні, якое нам даў гарвыканкам Ліды".*

Моладзь БНФ дапамагла перавозіць кнігі. Цэлы дзень 13 ліпеня хлопцы й дзяўчаты грузілі кнігі ў фургон, разьбіралі паліцы. Некаторыя нават суправаджалі фургон у Ліду, дзе іх сустрэлі мясцовыя актывісты моладзі БНФ, каб дапамагчы разгрузіць фургон.

17 жніўня перавезьлі рэшту кніг. Зноў не абышлося бяз нашае моладзі.

# Моладзь БНФ езьдзіць

### Магілёў і Бабруйск

Маладыя фронтаўцы зь Менску распавялі магілёўцам і бабруйчанам гісторыю Моладзі БНФ, пра актуальныя праекты і кампаніі, дамовіліся на бліжэйшыя акцыі. Супольнымі намаганьнямі быў складзены плян працы, улучна з удзелам у выбарах, з арганізацыяй мясцовага выданьня, распаўсюдам прадукцыі. Удзельнікі сустрэчаў атрымалі розную атрыбутыку й прадукцыю моладзі БНФ і кампаніі «За свабоду».

Напрыканцы сустрэчаў мясцовыя арганізацыі моладзі БНФ вылучылі дэлегатаў на Зьезд – тры чалавекі ад Магілёва й два ад Бабруйску

### Жлобін і Гомель

23 жніўня сябры моладзі БНФ наведалі Жлобін і Гомель. Падчас паездкі адбыліся сустрэчы зь мясцовымі маладымі актывістамі дэмакратычнага руху, некаторыя зь якіх ужо зьяўляюцца сябрамі ці то моладзі БНФ, ці то Партыі БНФ. Ім было прапанавана далучацца да дзейнасьці моладзі БНФ,

У Жлобіне паводле пляну было вылучана на Зьезд два чалавекі, у Гомелі – тры.

### Сьветлагорск і Мазыр

У Сьветлагорску падчас сустрэчы зь мясцовымі маладымі актывістамі былі абмеркаваныя прапановы мясцовай моладзі правесьці канцэрт беларускіх музыкаў і выпусьціць зборнік беларускага слэнгу для моладзі. У Мазыры на сустрэчы прысутнічалі сябры Партыі БНФ, актывісты кампаніі "За свабоду", а таксама актыўная моладзь з мазырскага ліцэю.

У Сьветлагорску й Мазыры было вылучана па два дэлегаты на Зьезд моладзі БНФ.

# 27 ліпеня

Вярхоўны Савет БССР ухваліў Дэклярацыю аб дзяржаўным сувэрэнітэце. 27 ліпеня Беларусь набыла чаканую ўсімі самастойнасьць. Гэта быў вызначальны крок у шляху да Незалежнасьці. Дзеля гэтага змагаліся дэпутаты фракцыі БНФ у Вярхоўным савеце, людзі – на плошчы. Савецкія ўлады спалохаліся грамадзкага духу, які няспынна рос, і спасавалі, даўшы шанец вызначыць свой лёс самім беларусам.

Пасьля рэфэрэндуму 1996 году афіцыйныя ўлады адмянілі сьвята. Аляксандр Лукашэнка, які атрымаў тады неабмежаваныя паўнамоцтвы, прызначыў Днём Незалежнасьці дзень вызваленьня Менску ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў 3 ліпеня. Сьведамыя беларусы паранейшаму адзначаюць Дзень сувэрэнітэту менавіта 27 ліпеня, памятаючы, што ён стаў істотным крокам дзеля вяртаньня да ідэалаў Дня незалежнасьці 25 Сакавіка.

## Прайшло 16 гадоў

Алё сёньня пытаньне незалежнасьці Беларусі стаіць гэтаксама востра як і тады. Пастаўлены ясны выбар – і ад яго залежыць будучыня краіны на дзесяцігодзьдзі - ці быць складовою часткаю імпэрыі, ці стаць адным з вольных народаў Эўропы. У нашай Незалежнасьці два ворагі: Пуцін паставіў цьвёрдую мэту інкарпараваць Беларусь, а Лукашэнка – захаваць уладу, дзеля чаго ён пойдзе на ўсё. І толькі агульнанацыянальны пратэст зможа захаваць краіну.




фота © Хмара Захараўна

# Працягваем вулічнае змаганьне...

### У МЕНСКУ

Калі б мы ўтрымалі тую, здабытую 16 год таму назад незалежнасьць, гэты дзень адзначаўся б масава па ўсёй Беларусі. З урачыстымі шэсьцямі, сьвяточнымі канцэртамі й прамовамі тых вэтэранаў дэмакратычнага руху, сярод якіх нямала сяброў Партыі БНФ – Валянцін Голубеў, Пятро Садоўскі, Галіна Сямдзянава, Мікалай Аксаміт, Лявон Баршчэўскі, Лявонцій Зданевіч, Віктар Івашкевіч і іншыя.

27 ліпеня менская моладзь БНФ вывесіла расьцяжку «За незалежнасьць» у раёне мэтро Няміга й спусьціла вялізны бел-чырвона-белы сьцяг з 14-га паверху жылога дому каля мэтро Фрунзэнская. Была заплянаваная яшчэ адна акцыя – самая прыгожая. Плянавалася падняць бел-чырвона-белы сьцяг на газавых балёніках у самым цэнтры Менску (у раёне Плошчы Перамогі). Аднак на падыходзе да месца мерапрыемства акцыю сарвалі супрацоўнікі міліцыі.

### У РЭГІЁНАХ

Актывісты моладзі БНФ зь Віцебску правялі ў розных месцах гораду некалькі флэш-мобаў: па рацэ Заходняя Дзьвіна быў пушчаны плот зь бел-чырвона-белым сьцягам, такі ж сьцяг быў вывешаны на мосьце імя Кірава. У трох кропках Віцебску – з плошчы Свабоды, Пралетарскай плошчы й праспэкту Будаўнікоў каля крамы «Амега» ў неба былі паднятыя кампазыцыі зь бел-чырвона-белых балёнікаў, якія трымалі нацыянальны сьцяг. Пасьля моладзь усклала белыя й чырвоныя гвазьдзікі да помніку Ўладзімеру Караткевічу.

Падобныя акцыі адбыліся 27 ліпеня ў шматлікіх гарадах і мястэчках Беларусі. Гэта былі флэш-мобы з выкарыстаньнем нацыянальнай сымболікі. Гэтыя акцыі не паказвалі па дзяржаўным тэлебачаньні, пра іх не паведамляла афіцыйнае радыё. Але яны аб'ядналі тысячы людзей па ўсёй Беларусі, паказалі, што, нягледзячы на ўсе парашкоды, у нас ёсьць матывацыя й жаданьне здабываць незалежнасьць ізноў.

# Справы Ляшкевіча й Касьпяровіча

## Кідаючы ў турмы фронтаўцаў, улады ў чарговы раз дэманструюць сваю бездапаможнасьць

Мінулая прэзыдэнцкая кампанія была рэкорднай ня толькі паводле накалу палітычнай барацьбы, масавасьці пратэстаў, але, нажаль, і па колькасьці рэпрэсаваных. Па розных матывах за краты патрапілі сотні чалавек, было складзена некалькі тысячаў беспадстаўных пратаколаў, узбуджаныя дзясяткі крымінальных справаў, некаторыя зь якіх цягнуцца й зараз. У тыя гарачыя месяцы на экранах тэлевізіі мы бачылі ўсё, што толькі можна ўявіць: па вуліцах хадзілі журналісты, што лаяліся матам; быццам бы рыхтаваліся тэракты з дохлымі пацукамі, з дапамогай дакумэнтальных фільмаў рыхтавалі тэрарыстаў, а апазыцыя фальсыфікавала вынікі незалежных апытаньняў. Асабліва незразумелымі падаюцца ход і разгляд справаў Зьмітра Касьпяровіча й Сяргея Ляшкевіча.

Зьміцер Касьпяровіч быў затрыманы ў ноч з 17-га па 18-га студзеня разам са сваімі сябрамі Зьмітром Гаўрусікам і Паўлам Батуевым, калі яны спрабавалі зьняць з будынку Менгарвыканкаму чырвона-зялёны сьцяг і замест яго ўсталяваць нацыянальны бел-чырвона-белы. Аднак паводле Крымінальнага кодэксу за гэты артыкул нельга пакінуць пад вартай. Іх абвінавацілі ў хуліганстве. Таму дваццатага студзеня пракурор Маскоўскага раёну Багданаў перакваліфікаваў справу. Касьпяровіча пакінулі пад вартай да суду, а на Батуева і Гаўрусіка справу вырашылі не заводзіць. Падчас затрыманьня Зьміцер захварэў, а падчас сьледства ён знаходзіўся ў камэры, дзе акрамя яго было яшчэ 15 чалавек. Камэра, дарэчы, была разьлічана толькі на 12 асобаў. Але Зьміцер вельмі мужна пераносіў зьняволеньне, прасіў сваякоў не хваляваца, аптымістычна глядзець у будучыню. Суд быў прызначаны на 27 лютага й пакараў Зьмітра Касьпяровіча арыштам на пяць месяцаў. Падчас суду хлопца трымалі ў клетцы, як небясьпечнага злачынцу. Зьміцер не пагадзіўся з абвінавачаньнем. Ён заявіў, што гатовы адказваць за зьнявагу дзяржаўнага сьцягу, але не за хуліганства. Так Касьпяровіч патлумачыў, што атрымаў нармальнае выхаваньне й ніколі ня быў хуліганам. На судзе прысутнічаў лідэр Партыі БНФ Вінцук Вячорка. Ён назваў справу супраць Зьмітра Касьпяровіча прыкладам двайных стандартаў у беларускай судовай практыцы, параўнаў зь 1995 г., як Іван Ціцянкоў абышоўся зь дзяржаўным бел-чырвона-белым сьцягам.

Потым, пасьля выбараў, калі хваля пратэстаў спала, Зьмітра датэрмінова выпусьцілі на волю. Гэта адбылося 28 красавіка, у пятніцу. Першыя словы актывіста пасьля выхаду на волю былі: *«Першыя мае пачуцьці – гэта радасьць. Бо амаль тры з палова месяцы я ня бачыў волі. Бачыў адны сьцены ў камэры. Тут дастаткова жорсткі рэжым, у 6.00 – пад'ём, у 22.00 – адбой, таму хочацца найперш выспацца. Сядзелася нармальна, людзі дастаткова адэкватныя, адміністрацыя ставілася нармальна як і да ўсіх. Я ведаў, што выходжу й быў да гэтага падрыхтаваны. Мая пазыцыя не зьмянілася. Наадварот, яна больш умацавалася гэтай цдсідкай. Пасадзілі мяне незаконна, не па тым артыкуле й фактычна ні за што адсядзеў».*

Яшчэ больш заблытаная справа іншага сябры Партыі БНФ – Сяргея Ляшкевіча. Супраць яго была ўзбуджаная крымінальная справа паводле артыкулу 293 ч.3 Крымінальнага Кодэксу (навучаньне ці іншая падрыхтоўка асобаў да ўдзелу ў масавых беспарадках). У ягонай кватэры напачатку быў ператрус, а потым яго даставілі ў сьледчы ізалятар. Уся яго віна заключалася ў тым, што ён паказваў свайму знаёмаму дакумэнтальны фільм, дзе была паказана сутычка дэманстрантаў і міліцыі падчас масавай акцыі, так званы дакумэнтальны мюзыкл "Незвычайны канцэрт". Сяржук таксама знаходзіўся ў ізалятары да суду. Яго пастаянна пераводзілі з аднаго ізалятара ў іншы. Паўсюль былі страшныя ўмовы знаходжаньня.



Руслан Трубчык

У траўні Сяргей Ляшкевіч атрымаў шэсьць месяцаў турмы фактычна ні за што. Судзьдзя Сініла ў сваім рашэньні ўзяў да ўвагі выключна сьведчаньні абвінаваўчага боку. Яны, у сваю чаргу, будаваліся на паказаньнях сьведкі, тройчы асуджанага па крымінальных справах, Аляксандра Бурдзея. Дарэчы, апошні прысуд Бурдзею на два з паловай гады абмежаваньня волі вынесіў той самы судзьдзя Сініла.

Сяргей Ляшкевіч не прызнаў ніводнага пункту абвінавачваньня з боку пракурора, а ягоныя адвакаты даказвалі, што відэакліп пад назовам «Незвычайны канцэрт», які Бурдзей бачыў у кватэры Ляшкевіча, зьяўляецца творам мастацтва, як, да прыкладу «Вайна і мір» Талстога, а ні ў якім выпадку не навучальным матэрыялам для масавых беспарадкаў. Аднак судзьдзя патрактаваў відэафільм інакш.

Ляшкевіч з турмы выйшаў таксама датэрмінова. Гэта адбылося 27 ліпеня, якраз на Дзень Незалежнасьці. Яго першыя словы пасьля выхаду на волю былі: *«Я вельмі ўзрадаваны, што бачу блакітнае неба й зялёныя дрэўцы. Па-другое, хачу сказаць: калі нехта думае, што з дапамогай турмы мяне можна змусіць адмовіцца жыць у вольнай дэмакратычнай краіне, то ён глыбока памыляецца».*

**Антон КАЛІНОЎСКІ**

## Подых навальніцы

Пасьля ліквідацыі намётавага мястэчка ў цэнтры Менску напаўжартоўныя размовы сярод студэнтаў на тэму "сёньня зьвесткі пра ўсіх адсутных падалі ў рэктарат" і "нас папярэдзілі, каб на плошчу ніхто ня соўгаўся" набылі новае гучаньне. Арышты, пратаколы, адсутнасьць на занятках і тлумачэньне кшталту "сядзеў у турме 15 сутак" нават самых пасьпяховых студэнтаў прымусілі задумацца пра тое, ці будзе ў іх магчымасьць здаць сэсію й атрымаць дыплём. Скончыліся тэрміны арыштаў, студэнты вярнуліся ў родныя навучальныя ўстановы. Адразу нікога не выключалі, хоць у некаторых сапраўды пачалі зьяўляцца праблемы, пакуль даволі дробныя, са здачамі рэфэратаў, лабараторных працаў, курсавых (маўляў, ня здалі ў час, а зараз не прымаем)... Бліжэй да пачатку сэсіі стала зразумела, што шмат каго да экзамэнаў проста не дапусьцяць з нагоды ўсё тых жа нязДадзеных у час рэфэратаў, лябараторных і курсавых працаў. Некаторым адкрыта казалі пра адлічэньне. У каляпалітычных моладзевых суполках усё больш настойліва чулася "нічога, усе паедзем за мяжу вучыцца".


Варшава – прытулак беларускім студэнтам

# Зьехаць ці застацца

## Камітэт абароны рэпрэсаваных

5 красавіка перад ганкам Акрэсьціна, зь ініцыятывы бацькоў, што чакаюць пад сьценамі сваіх дзяцей, утвараецца Камітэт абароны рэпрэсаваных. На чале становіцца жонка лідэра дэмакратычных сілаў Іна Кулей. У склад Камітэту ўваходзяць лідэры вядомых беларускіх грамадзкіх арганізацыяў: Алесь Бяляцкі (праваабарончы цэнтр "Вясна"), Людміла Гразнова (арганізацыя "Праваабарончы альянс"), Алена Талапіла ("Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў"), Андрэй Вітушка ("Асацыяцыя Беларускіх Мэдыкаў"), Ала Кароль (грамадзянская ініцыятыва "Камітэт салідарнасьці бацькоў"). Камітэт заручаецца падтрымкаю Аляксандра Мілінкевіча й Палітычнай рады, абяцаючы быць сур'ёзным праектам. Моладзь уздыхае з палёгкаю, пачынаючы ліхаманкава зьбіраць дакумэнты, якія пацьвердзяць іх "рэпрэсаванасьць". Падставай для выняСеньня рашэньня можа быць пакет дакумэнтаў: пастанова суду, даведка аб адбыцьці адміністрацыйнага пакараньня, пастанова аб штрафных санкцыях, дакумэнт аб уліку ў дзіцячым пакоі міліцыі, дакумэнт аб звальненьні з працы, выпіска з мэдычнай карткі, рэкамэндацыі прадстаўнікоў кааліцыі, інфармацыя ў СМІ.

## Пытаньне "зьехаць ці застацца" ня ставілася

За тры месяцы дзейнасьці ў Камітэт абароны рэпрэсаваных зьвярнулася 678 чалавек, з іх 372 студэнты. Амаль усе зь іх абнадзеяныя – будзе магчымасьць вучыцца далей. Праўда, не на Радзіме. Праграма імя Каліноўскага (міжнародная праграма дапамогі студэнтам, пацярпелым ад рэжыму па палітычных матывах, якая ўзьнікла падчас замежных паездак Аляксандра Мілінкевіча й яго дамоваў з кіраўнікамі эўрапейскіх краін) адразу выклікала буру эмацыйных спрэчак. Дзіўнага ў гэтым факце нічога няма. Адзін з удзельнікаў праграмы імя Каліноўскага ў інтэрвію для БТ распавёў, што дапамагаў за грошы "левым" людзям атрымаць стыпэндыі па праграме. І гэта, на вялікі жаль, можа быць праўдаю. Ува ўмовах супрацьдзеяньня ўладаў, пры напаўпадпольным правядзеньні набора, з-за адсутнасьці тэхнічнай магчымасьці правесьці адбор удзельнікаў праз сур'ёзныя структуры (нагадаем, офісы арганізацыяў, якія раней займаліся культурным і навучальным абменам з Эўропай і ЗША, даўно ліквідаваныя ўладамі), былі ўсе магчымасьці для махінацыяў... Тым ня менш, будзе надта прыкра ўбачыць, калі зьмяшаюць з брудам высілкі ўсіх ініцыятараў праграмы – Аляксандра Мілінкевіча, Іны Кулей, польскага ўраду ды іншых... А прычынаў сумнявацца, што любая магчымасьць зьбэсьціць гэтых людзей будзе выкарыстаная, няма.

## Як жывецца ў Варшаве “каліноўцам”

“Хто сапраўды паехаў вучыцца, той вывучыцца, а таму, хто й у Беларусі лынды біў, не дапаможа ніякая Польшча”, - так кажуць зараз студэнты стыпэндыяльнай праграмы імя Кастуся Каліноўскага ў Варшаве. Жыцьцё й вучоба мала адрозьніваецца ў Польшчы. Ёсьць выдатнікі й двоечнікі, гультаі й тыя, хто дзень і ноч вучаць język polski. Адразу пасьля ўрачыстага адкрыцьця праграмы ў акадэміку, дзе жывуць беларускія студэнты, арганізавалася суполка барацьбітоў за справядлівасьць, якая пачала адсочваць тых, хто сапраўды трапіў у Варшаву як “левы”. Кажуць, знайшлі. Што рабіць далей зь інфармацыяй пра гэтых людзей, ніхто ня ведае. Сябры моладзі БНФ, якія трапілі па праграме ў Варшаву, кажуць, што вельмі мала хто размаўляе на беларускай мове, стаўленьне да сьвядомых часам нэгатыўнае. “Амаль кожны тыдзень у нас каго-небудзь забірае хуткая дапамога, пастаянна чыняцца п'янкі й бойкі, – кажа кіраўнік часовай арганізацыі моладзі БНФ у Варшаве Сьцяпан Сьвідзерскі. – Але такое бывае ў любым інтэрнаце. Проста на нас накіраваная зараз вельмі вялікая ўвага, таму кожны выпадак становіцца шырокавядомым. Насамрэч я лічу гэта тэстам для сябе, для маіх сяброў, якія тут апынуліся. Спадзяюся, мы здолеем застацца тымі беларусамі, тымі барацьбітамі, якімі былі на Кастрычніцкім пляцы”.

## Што далей?

Кулюарныя размовы на тэму “трэба як мага хутчэй вяртаць каліноўцаў у Беларусь”, вядома, ня будуць рэалізаваныя праз афіцыйныя пастановы й заявы. Колькі б абураныя не крычалі на форумах і блёгах, рашэньне зьехаць застаецца на сумленьні кожнага асобна ўзятага. Зараз шмат каго хвалюе пытаньне “А ці вернуцца?”. Пакуль што каліноўцы б'юць сябе ў грудзі й крычаць “Ды за каго вы нас лічыце? Вядома, вернемся”. Вернуцца ці ня вернуцца – невядома. Застануцца надоўга – дакладна. Тым часам Камітэт абароны рэпрэсаваных абʼявіў пра працяг праграмы для пацярпелых ад рэжыму. Чэхія, Нямеччына, Эстонія, Нарвэгія, Францыя, Украіна, Літва й іншыя эўрапейскія краіны гатовыя ўзяць на навучаньне й працу людзей зь Беларусі... Рашэньне прымаць кожнаму асабіста.



Бальшыня тых, хто зьяжджае на вучобу, могуць не вярнуцца




## Ушанаваньне Крыжа Кастуся Каліноўскага

Сябры моладзі БНФ наведалі памятнае месца Клеччыны – крыж Кастуся Каліноўскага. Суправаджала групу сябра Партыі БНФ, мясцовая актывістка Часлава Князева. Спадарыня Часлава правяла цікавую экскурсію па Клеччыне, распавяла пра праблемы, якія хвалююць тутэйшых людзей. Часлава Князева ў 1996 годзе перад 490-годзьдзем перамогі беларускіх войскаў ВКЛ над крымскімі татарамі па ўласнай ініцыятыве й за свае грошы паставіла помнік на месцы змаганьня. *«Я зьвярталася ў райвыканкам,* – кажа Часлава Князева, *–прасілі, каб паспрыялі, дапамаглі. А мне сказалі, што ня вераць, што тут у нас былі змаганьні, адправілі мяне ў Менск па афіцыйнае пацьверджаньне. Самой давялося эскіз помніку рабіць, самой камень шукаць, потым знаёмы муляр зрабіў помнік. Таму лічу гэты помнік сваім дзіцём».* Зрэшты, крыж Кастуся Каліноўскага таксама быў пастаўлены пры непасрэдным удзеле Чаславы Князевай, якая не зьбіраецца спыняцца на дасягнутым і да наступнага году плянуе паставіць помнік яшчэ на адным значным для Клеччыны месцы.




# Палітыка
## краін Эўразьвязу ў газазабесьпячэньні

Напачатку неабходна акрэсьліць зыходныя ўмовы, што былі пакладзеныя ў аснову дадзенага разважаньня. Фундамэнтальнай умовай зьяўляецца факт, што агульнай палітыкі ЭЗ у дадзенай галіне не існуе, дакладней існуюць агульныя й выключна рэкамэндацыйныя крытэры набыцьця й дыстрыбуцыі газу, у той жа час ня вызначана, ці павінна адна краіна ЭЗ пры забеспячэньні сваіх патрэбаў прымаць пад увагу інтарэсы іншай краіны. У гэтых дакумэнтах не апісваецца сытуацыя палітычнага выкарыстаньня факту валоданьня энэргарэсурсам для ціску на іншыя краіны. Таму дэ-факта мы маем дачыненьне з мноствам нацыянальных палітык краін ЭЗ, а не з супольнай палітыкай ЭЗ, што й адлюстравана ў назьве дадзенага матэрыялу.

Другім зыходным момантам, які неабходна заўважыць, зьяўляецца падзел краінаў ЭЗ на дзьве асноўныя катэгорыі: краінаў-спажыўцоў і краінаў транзыту. Апошнія, вядома, таксама зьяўляюцца й спажыўцамі, але асноўным сродкам абароны сваёй канкурэнтназдольнасьці для іх зьяўляецца маніпуляваньне ўмовамі транзыту праз сваю тэрыторыю. Сярод гэтых умоваў ёсьць тэхнічныя магчымасьці, валоданьне альбо збалянсаваная прыватызацыя ўласных газаправодаў, кошты транзыту й, што ня менш важна, барацьба супраць паўставаньня канкурэнцыйных шляхоў транзыту.

Асаблівасьць апошняй групы краін праяўляецца й у тым, што яны ў большай ступені, чым краіны “старой Эўропы” залежныя ад расейскага газу. Таму рэальны геапалітычны падзел Эўропы на “старую” і “новую” мае істотную энэргетычную складовую частку. Дадатковым момантам зьяўляецца й дастаткова моцная, хаця і меншая, чым у выпадку краін Міжмор’я, залежнасьць “старой Эўропы” таксама ад расейскага газу. У выніку мы атрымліваем сытуацыю з трыма асноўнымі гульцамі:

– старыя краіны ЭЗ (спажыўцы);

– новыя краіны ЭЗ (краіны транзыту), Украіна і Беларусь, іншымі словамі “Міжмор’е”;

– Расея, Альжыр і Нарвэгія (пастаўшчыкі).

Для краінаў Міжмор’я найбольш важнай зьнешняй велічынёй зьяўляюцца адносіны паміж старымі краінамі ЭЗ і Расеяй, і ўлік імі, альбо яго адсутнасьць, інтарэсаў краінаў Міжмор’я. Разгледзім сытуацыю з кожным з узгаданых суб’ектаў.

## Расея

Расея, у адрозьненьне ад таго, як яе разумее Эўропа і, магчыма, мы, разумее сябе зусім інакш, яна самавызначаецца як глябальны гулец. Яна адыгрывае шмат роляў: галоўнага пастаўшчыка, адной з галоўных транзытных тэрыторыяў, чальца Вялікай Васьмёркі, дзе шмат якія са згаданых пытаньняў абмяркоўваюцца. Таму Расея заўжды арыентуецца на стратэгічную пэрспэктыву й выступае за пашырэньне фармату Вялікай Васьмёркі на Кітай, Карэю, Індыю і Бразылію. Любое патрабаваньне краін Міжмоpра інтэрпрэтуецца Расеяй, дзякуючы сваім шырокім міжнародным кантактам, як спэкулятыўнае, у сьвятле захаваньня энэргетычнай бясьпекі.

Натуральным жаданьнем Расеі зьяўляецца пазбыцца ад “транзытнай манаполіі” Украіны, калі 80% экспарту газу ідзе праз яе.

**Расея заўжды арыентуецца на стратэгічную пэрспэктыву і выступае за пашырэньне фармату Вялікай Васьмёркі на Кітай, Карэю, Індыю і Бразылію**

Паводле Віктара Хрысьценка, Міністра прамысловасьці й энэргетыкі Расеі: *“Мы павінны мець выбар у шляхах дастаўкі. У гэтым сэнсе Паўночна-Эўрапэйскі Газапровад (ПЭГ) уяўляе сабой рэальную мажлівасьць дывэрсыфікацыі паставак расейскага газу. Мы павінны спраўдзіць схемы транзыту праз надзейныя транзытныя тэрыторыі альбо экстра-тэрытарыяльныя зоны ў будучыні...Эканамічнае й палітычнае значэньне энэргарэсурсаў часта немажліва падзяліць. Што нам не падабаецца сёньня, гэта спробы палітызацыі энэргетычных праблемаў. Рашэньні павінны быць абсалютна прагматычныя, з захаваньнем існуючых пагадненьняў, згодна са стандартнай эканамічнай практыкай. З палітычнымі спэкуляцыямі павінна быць скончана.”*

## Краіны Міжмор’я

Сярод краінаў Міжмор’я ключавую для сытуацыі Беларусі адыгрывае Польшча. На лініі Масква – Бэрлін ня можа быць дзьвюх палітык, але толькі адна. Таму вельмі важна ведаць сёньняшнюю пазыцыю Польшчы. Польскія палітыкі падазраюць Бэрлін і Маскву ў антыпольскай кансьпірацыі. Польскія ўлады клапоціць будаўніцтва Паўночна-Эўрапэйскага Газаправоду. Пляны будаваць такі газапровад у абыход Польшчы былі ўспрынятыя як абраза. Трэба адзначыць, што ідэя будаўніцтва дадзенага газаправоду сьведчыць аб істотнай зьмене геапалітычнай сытуацыі ў Цэнтральнай Эўропе, хаця б і таму, што ён ставіць у аднолькавую пазыцыю й Польшчу, і прамаскоўскую Беларусь. Ян Марыя Ракіта запатрабаваў, каб пытаньне газаправоду было ўнесена ў парадак дня перамоваў паміж Расеяй і ЭЗ. Польшча таксама заклікала Нямеччыну й Расею адмовіцца ад будаўніцтва ПЭГ, запрапанаваўшы праект газаправоду “Бурштын”, які прайшоў бы праз тэрыторыі Латвіі, Літвы й Польшчы і быў бы ў некалькі разоў таньнейшы за ПЭГ.

На гэта нямецкі экспэрт Бэрлінскага

працяг на старонцы 13

пачатак са старонкі 12

# Палітыка краін Эўразьвязу ў газазабесьпячэньні

Фонду Навукі й Палітыкі сп. Кай-Олаф Лянг адказаў наступным чынам: "Шанцы альтэрнатыўнага шляху для ПЭГ мізэрныя".

Пазыцыя балтыйскіх краін была выказана Балтыйскай Асамблеяй у кастрычніку 2005 г. Балтыйская Асамблея прыняла супольную дэклярацыю скіраваную супраць плянаў будаўніцтва ПЭГ, з прычыны таго, што такі газаправод зьніжае энэргабясьпеку й экалягічную сытуацыю балтыйскіх краінаў. Прэзыдэнт ЛР Вальдас Адамкус сказаў, што ідэя "праведзеньня ПЭГ па дне Балтыкі, а не па тэрыторыі балтыйскіх краін, паказвае поўны брак разуменьня канцэпцыі дабрасуседзкіх стасункаў паміж Нямеччынай і сяброўскімі краінамі – чальцамі ЭЗ", на што былы канцлер Нямеччыны Шродэр вельмі рэзка адказаў, што "камэнтар Адамкуса неабгрунтаваны ані паводле формы, ані паводле зьместу".

## Старыя краіны ЭЗ

Нельга сказаць, што ЭЗ абсалютна не хвалюе залежнасьць ад расейскага газу і што ў Брусэлі зусім няма разуменьня палітычных каранёў гэтай праблемы. Аб адваротным сьведчыць хаця б частата з'яўленьня энэргапытаньняў у парадку дня найвышэйшых форумаў ЭЗ. Да таго ж са зьяўленьнем сярод чальцоў ЭЗ краін Міжмор'я ёсьць каму на гэтых паседжаньнях падобныя пытаньні ўздымаць.

Некаторыя старыя краіны ЭЗ думаюць аб дывэрсыфікацыі пастаўшчыкоў газу, а таксама формы паставак. Андрыс Піебалгс (прадстаўнік Латвіі), камісар Эўракамісыі па энэргэтыцы сказаў, што некаторыя краіны ЭЗ пачалі размовы з Катарам, Анголай і Нігерыяй аб пастаўках скропленага (вадкага) газу ў эўрапэйскія тэрміналы. Паводле Піебалгса "скроплены прыродны газ дае нам больш гнуткасьці. Катар будзе вялікім гульцом і мае намер пастаўляць газ морам. Таксама ёсьць Нігэрыя і Ангола. Гэта цалкам зьменіць сытуацыю і гэта можа быць зрэалізавана". Піебалгс таксама дадаў, што "нядаўнія крызысы з Украінай і Грузіяй паказалі ня толькі ўнутраную слабасьць расейскага энэргэтычнага сэктару, але і брак каардынацыі паміж чальцамі ЭЗ у выпадку кароткатэрміновага спыненьня паставак з Расеі.

Але паколькі ў ЭЗ няма супольнай энэргэтычнай палітыкі, кантракты на пастаўку заключаюцца на білятэральным узроўні. Польскі ж плян, прапанаваны прэм'ерміністрам Казімежам Марцінкевічам прадугледжваў наступнае:

– шматбаковыя гарантыі ў галіне энэргабясьпекі, у рамках якіх удзельнікі забавязаны аказваць дапамогу адзін аднаму ў выпадку крызысных сытуацый;

– супольныя інвэстыцыі ў інфраструктуру могуць быць рэалізаваныя выключна удзельнікамі пагадненьня;

– удзельнікі пагадненьня будуць клапаціцца аб дывэрсыфікацыі паставак і транспарту энэргарэсурсаў;

– пагадненьне адкрытае толькі для чальцоў ЭЗ і НАТА, што аўтаматычна выключае Расею.

Польшча таксама пачала лябіяваньне на карысьць далучэньня Украіны да НАТА ў выглядзе "пляну дзеяньняў на карысьць уступленьня", дзеля таго, каб Украіна мела мажлівасьць далучыцца й да энэргетычнай ініцыятывы.

**Калі ж новыя чальцы ЭЗ аказваюцца ў ролі "папялушак", тады ўзьнікае найлепшы момант, каб падумаць над ідэяй Цэнтральна-Эўрапэйскай Энэргэтычнай Ініцыятывы, да якой павінны былі б далучыцца таксама Украіна і Беларусь.**

Але Андрыс Піебалгс сьцьвердзіў, што *"Эўропа павінна скараціць сваю залежнасьць ад расейскага газу да 25%, а таксама займацца актыўным пошукам паставак газу з Казахстану і басэйну Каспійскага мора". У кулюарах брусэльскага саміту Піебалгс таксама сьцьвердзіў, што на яго думку "Расея будзе пасьлядоўна рэалізоўваць ідэю будаўніцтва ПЭГ у абыход Польшчы. Казахам жа патрэбна нашая палітычная падтрымка і мы зробім усё, што ў нашых сілах, каб дапамагчы ім".*

Піебалгс таксама прапанаваў ідэю т.зв. "агульнаэўрапэйскага энэргэтычнага рэгулятара", пры функцыянаваньні якога краіны ЭЗ павінны былі б ліквідаваць бар'еры ў энэргэтычным рынку паміж сабой, і даваў бы мажлівасьць прымусіць энэргэтычныя кампаніі разьвіваць трансмежавую сетку эўрапейскіх газаправодаў. Эўракамісія ў прынцыпе пагадзілася з тым, што "такія вузкія месцы існуюць, і яны дазваляюць утрымліваць манапалістам сваю пазыцыю". Але многія нацыянальныя ўрады баяцца "рэгулятара", гэтак Канцлер Аўстрыі Вольфганг Шусэль заявіў: *"што гэты рэгулятар створыць новую супэр-бюракратыю"*. Салідарна з Шусэлем выступіў і Намесьнік міністра эканомікі Нямеччыны Гэорг-Вільгэльм Адамовіч. У рэшце міністры падпісалі заключную дэклярацыю, у якой сьцьвярджаецца, што *"павінна захоўвацца ўсеагульная павага да дзяржаўнага сувэрэнітэту над першаснымі энэргэтычнымі рэсурсамі"*, а таксама *"поўны сувэрэнітэт краінаў-чальцоў над выбарам кампанэнтаў энэргазабесьпячэньня"*.

* * *

Ключавым пытаньнем сёньняшняй эўрапейскай палітыкі зьяўляецца наступнае: Ці мае Эўропа супольную палітыку ў галіне забесьпячэньня энэргіяй? Адказ дакладчыка будзе: не. Згодна з такім адказам, мы не можам разглядаць ЭЗ як адзінае цэлае, але толькі як поле гульні, на якім дзейнічаюць тры групы гульцоў: краіны-пастаўшчыкі, краіны-спажыўцы й краіны транзыту. На функцыянальны падзел накладваецца падзел геапалітычны. Краінамі-спажыўцамі зьяўляюцца старыя краіны ЭЗ, краінамі-пастаўшчыкамі – краіны з-за межаў ЭЗ, а краінамі транзыту – у асноўным новыя чальцы ЭЗ, а таксама Украіна й Беларусь. Фактычна можна казаць аб рэальным геапалітычным адраджэньні Міжмор'я. Усе ўдзельнікі гуляюць на палітычным полі ЭЗ, а краіны, якія ня маюць там афіцыйнага статусу, маюць затое магутных патронаў, якім для Расеі ёсьць Нямеччына.

Трэба адзначыць, што рэальная сытуацыя ў ЭЗ пярэчыць яго ўласным палітычным устаноўкам, якія зацьверджаныя ў якасьці мэтаў у Агульнай Замежнай Палітыцы і Палітыцы Бясьпекі, як напрыклад:

– захоўваць агульныя каштоўнасьці, фундамэнтальныя інтарэсы й незалежнасьць зьвязу;

– узмацьняць бясьпеку зьвязу й краін-чальцоў усімі мажлівымі шляхамі.

Калі ж новыя чальцы ЭЗ аказваюцца ў ролі "папялушак", тады ўзьнікае найлепшы момант, каб падумаць над ідэяй Цэнтральна-Эўрапэйскай Энэргэтычнай Ініцыятывы, да якой павінны былі б далучыцца таксама Украіна й Беларусь. Мэтай ЦЭЭІ была б выпрацоўка супольных захадаў краінаў-удзельнікаў для забесьпячэньня ўласнай энэргетычнай бясьпекі.

**Алесь Стральцоў**

# ФОТАВЫСТАВА «ЗА СВАБОДУ Й НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ»

*24 жніўня ў сядзібе Партыі БНФ адбылася прэзэнтацыя фотавыставы «За свабоду й незалежнасьць». Сеціўная група кампаніі "За свабоду" адабрала найлепшыя фотаздымкі, каб, аб'яднаўшы іх у адзін цыкль, стварыць для наведвальнікаў выставы атмасфэру сакавіка'2006. Каардынатар праекту фотавыставы «За свабоду й незалежнасьць» **Ігар Крашэўскі** адказаў на пытаньні прэс-групы Партыі БНФ.*



**– Як зьявілася ідэя аб'яднаць асобныя здымкі ў сэрыю адной канцэпцыі?**

– У вясновых падзеях мы ўдзельнічалі ўсе разам, але погляд у кожнага свой, унікальны. Сабраць нашыя «фотамеркаваньні» разам і паглядзець на падзеі, калі яны ўжо засталіся ў мінулым, – вельмі важна для таго, каб зразумець, што адбылося ў Беларусі й у нашых сэрцах.

Апроч таго, у Інтэрнэце пэрманэнтна зьяўляліся такога кшталту фотаздымкі, якія праўдзіва адлюстроўвалі падзеі тых дзён. Тады прыхільнікі пераменаў прагна ўглядаліся ў кожны фотаздымак, шукалі ў сетцы дакумэнты, якія сьведчылі пра падзеі, якія адбываліся ў тыя дні. Зараз, калі прайшоў некаторы час, зьявілася магчымасьць сабраць шматлікія фота, выбраць ня толькі праўдзівыя, але й самыя выразныя й нават прыгожыя. Зьявілася таксама магчымасьць храналагічна раскласьціць здымкі, скласьці іх пасьлядоўна і, згрупаваўшы, прапанаваць гледачу самому зрабіць абагульненьне сваіх уражаньняў. Як перажытых асабіста, так і атрыманых на аснове матэрыялаў нашай выставы.

**– Што вы хочаце данесьці да людзей, якія прыйдуць глядзець выставу?**

– Вядома, самая галоўная мэта – інфармаваньне. Многія да гэтага часу маюць уяўленьне пра тыя падзеі, сфармаванае на глебе самых супрацьлеглых плётак. Вельмі істотна для нас, як ужо гаварылася, было абагульніць, прадумаць і быццам наноў перажыць той пэрыяд найвышэйшага эмацыйнага й грамадзкага пад'ёму. Нашай выставай мы хочам нагадаць людзям, што ўсё гэта было й было недарэмна. Гледзячы на запоўненую людзкім морам плошчу, шмат хто знойдзе там свой твар і твары сваіх знаёмых. Гэта нагадае, што мора складаецца з кропель. Кожны чалавек неабходны, кожны мае значэньне. На мой погляд, менавіта гэта адчуваньне не павінна нас пакідаць, калі мы хочам самі вырашаць свой лёс і разам вырашаць лёс сваёй радзімы.

**– Як адбіраліся фоткі?**

– Крытычны погляд заўсёды пачынае аналіз з супастаўленьня фактаў. У нашай беларускай палітычнай рэчаіснасьці цяжка знайсьці сярод афіцыйных здымкаў выпадковы, праўдзівы кадр. Погляд тут карэктуецца й мадэлюе рэчаіснасьць у адпаведнасьці з пастаўленымі задачамі. Тым ня менш, такія здымкі вельмі выразныя для крытычнага погляду й самі часта паказваюць тое, што спрабуюць схаваць. Нашыя здымкі зробленыя ў асноўным рознымі фатографамі, якія былі й непасрэднымі ўдзельнікамі падзеяў. У той атмасфэры, што панавала на цэнтральных вуліцах Менску, цяжка было б ды й не было неабходнасьці што-небудзь фабрыкаваць. Фатографы сапраўды «лавілі момант». Мы адбіралі самыя выразныя здымкі, але не цэнзуравалі іх, выключаючы тыя ці іншыя твары, тыя ці іншыя сытуацыі. Інакш мы ўступілі б у супярэчнасьць з мэтаю нашага праекту – перадаць погляд з натоўпу й звонку.

**– Гэтая сэрыя фотаздымкаў - ці ня ёсьць гэта спэкуляцыя на жорсткасьці падзеяў сакавіка?**

– У нашай выставе акцэнт не на ўчыненым уладамі гвалце, а на нашым мірным і разумным задзіночаньні свабодных людзей. Тых, хто нягледзячы ні на што, паверыў у сябе й убачыў, што ён не адзін. Больш за тое, людзі не згубілі твар перад грубай сілай, ні на хвіліну не забылі, для чаго прыйшлі – дзеля міру й задзіночаньня. І гэта відаць на гэтых здымках.

**– Якая роля партыі БНФ у падрыхтоўцы выставы?**

– Відавочна, што ніякі праект ня можа быць рэалізаваны адной асобай: патрэбны й матэрыяльныя сродкі, і патэнцыйны глядач. Партыя БНФ адразу адгукнулася на нашую ініцыятыву, згадзілася даць памяшканьне, узяла на сябе выдаткі, падхапіла ідэю гастроляў мабільнай выставы па гарадах Беларусі. Акрамя таго, менавіта гэтая партыя на сёньняшнім этапе найбольш выразна агучвае самыя актуальныя для беларускага народу каштоўнасьці «За свабоду й незалежнасьць», якія лягічна працягваюць пачатую вясной 2006 году барацьбу.






# Данчык зноў загучаў

**Данчык "Я ад вас далёка"**, Мн., 2005, БМАgroup паводле ліцэнзіі Presswell Records, 1985, USA.

**Данчык "Мы яшчэ сустрэнемся"**, Мн., 2006, БМАgroup паводле ліцэнзіі Modern Album, 1992, USA.

Рэцэнзаваны раней дыск вэтэрана незалежніцкага музычнага мастацтва краіны Сержука Сокалава-Воюша – далёка не адзіны прэцэдэнт вольнай думкі ў беларускіх песьнях. І калі Сержуковы песьні сучасныя выдаўцы былі вымушаны рэстаўраваць паводле прыватных архіваў гуказапісу, дык былі й іншыя прыклады, калі вольная беларуская песьня, запісаная ў лепшых сусьветных студыях, тыражавалася на самых сучасных носьбітах гукаінфармацыі (LP, MC і CD). Праўда, гэта было ня дома, а ў беларускай Амэрыцы, у беларускай Польшчы, у беларускай Аўстраліі... І калі настаў час перавыданьня такіх рарытэтаў, дык ня трэба дзівіцца, што найбольш сур'ёзным праектам тут стала перавыданьне поўнай дыскаграфіі нашага залатагалосага салаўя зь Нью-Ёрку Данчыка. Заплянавана залічбаваць і выдаць на дыхтоўных CD усе шэсьць альбомаў артыста. Праект, натуральна, маштабны і будзе займаць нямала часу, але два CD з гэтай сэрыі ўжо здолелі пабачыць сьвет: самы папулярны альбом "Мы яшчэ сустрэнемся" (1992) і самы лепшы "Я ад вас далёка" (1985).

Калі вас бянтэжыць, чым адрозьніваецца самы лепшы альбом ад самага папулярнага, дык мушу зьвярнуць увагу на тое, што кружэлку 1992 года не зусім адназначна прыняла прэса, называючы альбом "Мы яшчэ сустрэнемся" ледзь не самым папсовым у дыскаграфіі Данчыка. Мо там і сапраўды не было надта вытрыманай канцэпцыі праграмы, але шараговаму слухачу ня надта балела галава, што ён слухае тое, што больш падабаецца ўсім. Дый ці гэта былі безгустоўныя песьні?

Акурат на альбом "Мы яшчэ сустрэнемся" трапіла аж пяць твораў, да якіх прыклаў сваё натхненьне Сяржук Сокалаў-Воюш. Гэта і "Два Полацкі", якая стала гімнам XIX сустрэчы беларусаў Паўночнае Амэрыцы (музыку да яе напісаў Яўген Магаліф), "Як ты са мной" (тут ужо Сяржук зьбеларусіў нейкую чульлівую грэцкую мэлёдыю), знакамітая яшчэ з бардаўскага рэпэртуару "Чароўная Ганна" (Сержукова прысьвячэньне віленскаму касьцёлу Сьвятой Ганны) і г.д.

Утрымліваюць абодва гэтыя альбомы й зварот да творчай спадчыны незабыўнага нашага песеннага клясыка Сяргея Новіка-Пяюна. І калі "Зорачкі" (1985) Сяргей Міхайлавіч яшчэ здолеў паслухаць асабіста, атрымаўшы невымоўную асалоду ад Данчыкавых сьпеваў, дык "Вечар над Шчарай" у 1992-м стаўся ўжо пасьмяротнай данінай павагі таленавітаму беларускаму аўтару (словы й музыка), патрыятычны дух якога не зламіла нават катаваньне ў савецкіх, польскіх і нямецкіх турмах.

Для слухачоў падсавецкай Беларусі заўсёды асабліва прывабнай была творчасьць музычных дзеячоў беларускай эміграцыі. Названыя альбомы Данчыка для многіх упершыню адкрывалі імёны таленавітых кампазытараў Міколы Куліковіча ("Я ад вас далёка" на вершы Я.Купалы, "Пагоня" на вершы М.Багдановіча), Алеся Карповіча ("Каханая" на вершы М.Ясеня), Міколы Равенскага ("Магутны Божа" на вершы Н.Арсеньневай). Дарэчы, Натальля Арсеньнева сталася тут і выкшталцоным перакладчыкам на беларускую мову знакамітых расейскіх эвэргрынаў пра Беларусь ("Белавежская пушча" А.Пахмутавай на словы М.Дабранравава, "Хатка па-над рэчкаю" У.Мігулі на словы А.Папярэчнага і г.д.).

Цікава, што пад уплывам Данчыка да твораў паэта-эмігранта Міхася Ясеня пачалі зьвяртацца й нават кампазытары Савецкай Беларусі. Ужо сама назва аднаго з гэтых альбомаў паходзіць ад песьні Валянціны Сярых на вершы М.Ясеня "Мы яшчэ сустрэнемся".

Безумоўна, не абышлося ў названых дысках і без шэдэўраў беларускай песеннай клясыкі – твораў І.Лучанка, І.Любана, Э.Ханка, больш маладых кампазытараў З.Яўтуховіча, Ю.Савіна, фальклёрных узораў. Данчык зрабіў іх набыткам слухачоў найпрэстыжнейшых канцэртовых заляў "Carnegie Hall" і "Lincoln Center", а цяпер яны вяртаюцца да нас на дыхтоўных кружэлках лепшых амэрыканскіх студыяў. Усе выдавецкія правы на гэтую сэрыю Данчык перадаў знакамітаму нашаму лэйблу "БМАgroup", таму варта чакаць працягу. Галоўнае, што акрамя поўнай адпаведнасьці арыгінальным выданьням (і паводле зьместу, і паводле аздобы) новыя дыскі ўтрымліваюць і рарытэтныя відэабонусы з канцэртаў Данчыка ў Беларусі.

**Вітаўт МАРТЫНЕНКА**

Канцэрт Сержука Сокалава-Воюша 22 жніўня сабраў поўную залю Дому літаратара. Публіка пачала зьбірацца за гадзіну да канцэрту. На пачатку пра знакамітага беларускага барда распавёў яго аднагрупнік, старшыня Партыі БНФ Вінцук Вячорка.

Сокалаў-Воюш прасьпяваў цыкль песьняў пра касінераў, выканаў акапэльна колькі песень з новага альбому «Лісоўчыкі». Зьвяртаючыся паміж песьнямі да прысутных, Сяржук зазначыў: *«У тыя часы, пра якія тут казаў Вінцук, мы нізавошта не сабраліся б такой колькасьцю, каб паслухаць беларускую песьню. Цяпер нас шмат, і хутка мы выйдзем шырокімі радамі».*




# Сяржук Сокалаў-Воюш

Сяржук Сокалаў-Воюш – адзін з актывістаў грамадзкага руху ў 80-90 х гг. Стваральнік некаторых нелегальных грамадзка-палітычных і творчых суполак у сярэдзіне 80-х гг. Адзін са стваральнікаў руху БНФ «Адраджэньне», пясьняр незалежнасьці пачатку 90-х гадоў. Шмат гадоў працаваў журналістам на Радыё Свабода. Зараз жыве за мяжой

**Сяржук Сокалаў-Воюш:** *Прыяжджаць дадому заўсёды прыемна і жадана, незалежна ад таго, што тут робіцца. Яна для мяне нават з-за акіяну падаецца блізкай. Я прыляцеў не адзін, а з жонкай і сынамі, якія вельмі хацелі ўбачыць краіну бацькоў. Сьветавіт і Славамір – амэрыканскія скаўты, таму ім было б цікава ўбачыцца і паразмаўляць зь беларускімі скаўтамі, падзяліцца досьведам. На летнія вакацыі дзецям у амэрыканскіх школах задаюць зрабіць які-кольвек праект, дык старэйшы загарэўся жаданьнем прысьвяціць яго праблеме чарнобыльскай катастрофы. Сустрэцца тут зь людзьмі, паразмаўляць.*

*Я прывёз з сабой новую праграму «Песьні лісоўчыкаў», якую буду прэзэнтаваць менскім слухачам. Лісоўчыкі – гэта беларуская кавалерыя, якая наводзіла страх далёка за межамі краіны. Яны маглі пераадольваць вялікія адлегласьці за раз, бо ішлі без усялякага абозу, а харчаваліся тым, што знаходзілі ці адбіралі па дарозе. Камандаваў імі палкоўнік Аляксандар Лісоўскі, уласна ад яго і пайшла назва. Аднаго зь лісоўчыкаў на карціне выявіў нават сам Рэмбрант.*

*Гэтыя песьні будуць выкананыя мною без музычнага суправаджэньня. Я не чакаю станоўчых рэакцыяў, прыму, калі слухачы абсьвішчуць і закідаюць мяне гнілымі памідорамі, але такім чынам я спрабую выйсьці з крызісу, які напаткаў бардаўскую песьню. Трэба шукаць новыя шляхі і выйсьці, каб ізноў у людзей зьявілася цікавасьць да бардаў.*

Плянуецца выданьне дыску Сержука “Песьні Лісоўчыкаў”. На кампакт увойдуць новая нізка, вершы паэта, гіт “Нефармальны беларус”, апошні трэкам будзе гімн БНФ “Фронт”. У мультымэдыйнай чысткі кружэлкі слухач адшукае відэа з выступу Сокалава-Воюша ў Сядзібе Партыі БНФ 15 жніўня

*(паводле Нашай Нівы)*

НавінЫ БНФ

№14(92), 8 ліпеня 2006 г., наклад 299 ас.
Распаўсюджваецца бясплатна на правах унутранай дакумэнтацыі

**Галоўны рэдактар:**
Ната Сеніна
**Выпускны рэдактар:**
Кастусь Козел

**E-mail:** pbnf@pbnf.org
**Сайт:** http://www.pbnf.org
**Адрас для ліставаньня:**
220005, Менск, вул. Варвашэні 8, Сядзіба БНФ